# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 9 (261) | ГОД VI | БЕЛАСТОК, 26 ЛЮТАГА 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

## НАША ПЯЦІГОДКА

**ЛІДЗІЯ БЯЛЕЦКАЯ — старшыня Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства.**

Дзень 26 лютага 1956 года беларускае насельніцтва, пражываючае ў Польшчы, лічыць сваім святам. У гэты памятны нядзельны дзень прадстаўнікі беларускага насельніцтва ў зале ТППР у Беластоку паклікалі да жыцця сваю нацыянальную арганізацыю — Беларускае грамадска - культурнае таварыства. Магчымасць утварэння Таварыства ўзнікла толькі дзякуючы народнай уладзе, якая нацыянальным меншасцям, пражываючым у нашай краіне, адкрыла шырокія перспектывы развіцця сваёй нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па свайму зместу культуры. Напрамкі дзейнасці Таварыства акрэслены ў прынятым арганізацыйным З'ездам Статуце.

Сёння, з перспектывы пяці мінулых год, азіраючыся на пройдзены намі шлях, можам сказаць, што зроблена намі многа добрага. Аднак трэба сказаць і аб тым, што былі ў нашай працы і недахопы. Падсумоўваючы нашую дзейнасць, заўсёды перш за ўсё робім пералік і падлік існуючых у нашых вёсках самадзейных мастацкіх гурткоў, якіх у сучасны момант налічваецца каля 80. І гэта не выпадкова.

Таварыства галоўную сваю ўвагу звяртала на мастацкі рух, занядбоўваючы іншыя напрамкі нашай дзейнасці, а самае галоўнае — асветныя справы. Не найлепш выглядае чытальніцтва кніжак на беларускай мове ў павятовых і грамадскіх бібліятэках, усё яшчэ слабай з'яўляецца прапаганда беларускай



кніжкі, хоць пастунова ўзрастае лік беларускіх кніжак у бібліятэках і раўнамерна да гэтага росту павялічваецца лік чытачоў і лік пазычанняў. Таварыства намагаецца ліквідаваць гэтыя недахопы, арганізуючы ўсялякага роду асветныя конкурсы, аўтарскія сустрэчы і даклады. Аднак усё гэта яшчэ з'яўляецца недастатковым. На асветныя справы трэба звярнуць асаблівую ўвагу ў далейшай нашай дзейнасці.

Праца наша не з'яўляецца лёгкай. Нам найчасцей прыходзіцца яшчэ цярэбіць сабе дарогу, пракладаць яе ўпершыню. Не маючы вялікага вопыту, часта прыходзіцца і блудзіць, марнаваць надарэмна свае сілы. А сіл гэтых, трэба сказаць, не ёсць замнога. Да нашай працы не маем арміі людзей; праводзяць яе пераважна ахвярныя адзінкі. На жаль, усё яшчэ не ўдаецца нам прыцягнуць да працы ў Таварыстве шырэйшага актыву, слаба працуюць члены Галоўнага Праўлення БГКТ. Гэтая праца найчасцей кладзецца на плечы штатных працаўнікоў Таварыства, якім нярэдка бывае яна не пад сілу і таму яны часта знеахвочваюцца і адыходзяць. Кадравая плыннасць з'яўляецца таксама сур'ёзным нашым недахопам. Людзі, якія прыходзяць да працы ў Таварыстве, працуюць больш ці менш плённа і калі ўжо набіраюць вопыту — адыходзяць. З іх вопыту найчасцей не прыходзіцца карыстаць тым, якія прыходзяць на іх месца.

Сур'ёзным недахопам у нашай дзейнасці з'яўляецца і тое, што часта мы працуем у адзіночку, не спалучаючы сваёй дзейнасці з існуючымі ў тэрэне грамадскімі і культурна - асветнымі арганізацыямі, якія дзейнічаюць у нашым асяроддзі і часта выконваюць гэтую ж самую працу.

Нашая арганізацыя ўсё яшчэ не з'яўляецца масавай. Тры тысячы членаў Таварыства і пяць тысяч тыражу «Нівы» на 200 тысяч беларускага насельніцтва — гэта надта заніжаныя лічбы, якія не могуць нас задавальняць і цешыць. І ў гэтай галіне трэба нам шмат папрацаваць, каб становішча радыкальна змянілася на лепшае.

Нехта можа сказаць, што ў дзень нашага юбілею, замест таго, каб рабіць падлік дасягненняў — а трэба сказаць, што маем ужо чым пахваліцца —

(Працяг на стар. 2)



Новы будынак Беларускага ліцэя ў Бельску.
Артыкул аб ліцэі п. з. «Помнік нашых дзён» чытай на стар. 4—5

## НА НАШАЙ НІВЕ

Актывістам БГКТ прысвячаю

Імкнемся думкамі да тых хвілін,
Што святам у жыцці былі вялікім.
Які ж каштоўны гэта быў пачын,
Што да жыцця БГКТ паклікаў!

Усё, што ў марах мелі мы і снах
Нам раптам з'явай сталася жывою.
На жыццедайны, новы, светлы шлях
Мы выйшлі згуртаванаю сям'ёю.

Яшчэ шмат працы маем на шляху,
Хай кожны працу гэтую разгорне!
Нясем прагрэс і веды пад страху,
На ніве роднай сеем шчасця зёрны.

Вось ўжо ўзышла і зелянее рунь,
Надыйдзе час — яна закаласіцца.
Мы працы плён збярэм да нашых пунь,
Сваім багаццем будзем ганарыцца.

ВІКТАР ШВЕД

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## Як вы ацэньваеце дзейнасць БГКТ?

**У сувязі з пятай гадавінай заснавання Беларускага грамадска - культурнага таварыства мы звярнуліся да некалькіх асоб з наступнымі пытаннямі:**

**1) Як вы ўспрынялі вестку аб заснаванні БГКТ?**

**2) Як вы ацэньваеце дагэтуляшнюю дзейнасць Таварыства?**

**3) Чаго вы жадаеце Таварыству ў яго далейшай дзейнасці?**

**А вось адказы на гэтыя пытанні:**

### Першы старшыня ГП БГКТ — АЛЯКСАНДР ДАВІДЗЮК



1) Пакліканне да жыцця БГКТ прыняў я з вялікім задавальненнем. Думаю, што ўсе беларусы, жыхары нашай краіны, наглядна пераканаліся, што інтэрнацыяналістычныя асновы палітыкі нашай партыі і народнай улады не з'яўляюцца пустаслоўем, але маюць канкрэтнае застасаванне ў практыцы.

2) Таварыства за час пяцігоддзя сваёй дзейнасці зрабіла вялікі крок наперад. Асабліва відавочна гэта ў галіне культурна - асветнай дзейнасці. Маю тут перш за ўсё на ўвазе орган Таварыства — «Ніву». Публікацыі «Нівы» сталіся вельмі цікавымі і атракцыйнымі. Вялікай папулярнасцю ў насельніцтве карыстаюцца сустрэчы з маладымі беларускімі паэтамі і празаікамі, якія наладжвае Галоўнае Праўленне. Шырокую папулярнасць здабыў сабе Беларускі калектыў песні і танца, які існуе пры Галоўным Праўленні. Людзі яго любяць, дамагаюцца выступленняў. І гэта не толькі ў беларускім асяроддзі, але наогул.

Добра таксама развівае Таварыства і эканамічную дзейнасць.

Усё гэта з'яўляецца доказам, што ў дзейнасці Таварыства наступіла поўная стабілізацыя БГКТ сталася неабходным у жыцці беларускага насельніцтва.

3) Жадаю далейшага арганізацыйнага ўмацавання Таварыства, і, у першую чаргу, умацавання гурткоў. Менавіта, у гуртках павінна канцэнтравацца праца Таварыства.

### Першы сакратар Павятовага Камітэта ПАРП у Гайнаўцы — ПЕТР САНЮКОВІЧ

1) Калі арганізавалася Таварыства, я ў той час працаваў у Элцкім павеце. І хаця ў гэтым павеце не было беларускага асяроддзя, аднак вестку аб утварэнні БГКТ я ўспрыняў са зразуменнем. Калі разыходзіцца аб Гайнаўшчыну, дык утварэнне Таварыства было тут асабліва патрэбным і карысным. У нас жа на Гайнаўшчыне асноўная маса насельніцтва бела-



рускай нацыянальнасці. Таму ўтварэнне БГКТ прычынілася да лепшага самапачуцця беларускага насельніцтва, я б нават сказаў, да павышэння сваёй нацыянальнай горда ці. І гэта добра.

2) Лічу, што Таварыства ў перыядзе сваёй пяцігадовай

(Працяг са стар. 3)

## ЯК ВЫ АЦЭНЬВАЕЦЕ ДЗЕЙНАСЦЬ БГКТ?

(Працяг са стар. 3)

### Кіраўнік пачатковай школы ў Парцаве, Б ьскага павета ЯЗЭП АЛЬШЭЎСКІ



1) Вестку аб арганізацыі Таварыства прыняў з вялікім задавальненнем.

2) Працу Таварыства ацэньваю дадатна. Шмат поспехаў мае Таварыства асабліва на ніве культурнай дзейнасці. Не малыя дасягненні назіраюцца і ў развіцці беларускага школьніцтва.

3) У далейшай дзейнасці Таварыства павінна болш прысвяціць часу арганізацыйным справам. Гэта асабліва патрэбна ў нашым павеце. Нашыя актывісты ўсё яшчэ мала ўключаюцца да гэтых спраў. Дык хацелася б, каб актывісты Таварыства былі больш актыўнымі і каб усё больш павялічвалася б колькасць членаў.

### Гаспадар з Рэйска — ВАСІЛЬ ПЭШКО

1) Урадавала мяне гэта. Нарэшце, падумаў я, нашая мова і культура арганізаваным чынам будзе падтрымоўвацца і гэтым самым паставіцца бар'ера да яе занядпаду.

2) За пяць год шмат зроблена. З усяго магчыма найважнейшае тое, што ў поўнай меры паднята нацыянальная гордасць беларуса, пражываючага ў Польшчы, што перастаў адчувацца камплекс ніжшасці і што чуецца ён сапраўдным гаспадаром сваёй краіны і супольна з цэлым народам будуе сацыялізм.

3) Хацелася б пажадаць у далейшай дзейнасці нашаму Таварыству, каб яно не спыняла працы з нашай моладдзю, якая ахвотна горнецца да мастацкай самадзейнасці, больш звяртала ўвагі на старэйшых людзей, каб знайшла формы працы з такімі як я, 40 і 50-гадовымі людзьмі на вёсцы. Ну, вядома, больш прапагандысты, больш дакладаў сярод сялян.



# ПОМНІК НАШЫХ

Гэтае месца пры вуліцы Каперніка ў Бельску Падляшскім афіцыйна называлася «Плянтамі». Была гэта пустка, па якой свабодна гуляў вецер ды козы час ад часу выходзілі на прагулку. Розныя былі намеры ў мясцовых улад адносна загаспадаравання гэтага месца.

Тымчасам яшчэ ў 1944 годзе, услед за наступаючай на захад вызваліцельнай — Чырвонай Арміяй — згуртоўваецца ў Бельску Падляшскім група энтузіястаў - настаўнікаў. Арганізуе яна тут гімназію і ліцэй з беларускай мовай навучання. Гэтая школа змяшчалася ў двух жыллёвых будынках увогуле не прыстасаваных да ўмоў педагагічнай працы. Аднак ужо ў 1946 годзе з гэтай школы выходзяць першыя выпускнікі з атэстатам сталасці.

Праходзяць яшчэ тры гады. Умовы беларускай школы ў Бельску крыху палягшаюцца. Арганізуецца пачатковая школа і агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання, які памяшчаецца ў гмаху пры вул. Міцкевіча 144. Дырэктарам гэтай школы назначаецца Яраслаў Васільевіч Кастыцэвіч — актыўны арганізатар беларускага школьніцтва ў Бельску з першых дзён вызвалення.

Ідуць гады. У Бельскі ліцэй прыбывае ўсё больш і больш вучняў. Першага верасня 1949 г. працавалі там толькі 3 настаўнікі, якія вучылі 47 вучняў. У апошнім школьным годзе ў Бельскім беларускім ліцэі працуюць ужо 22 настаўнікі, вучыцца звыш 400 вучняў. У гмаху пры вул. Міцкевіча 144 стала вельмі цесна. Трэба было шукаць спосабу на вырашэнне гэтай праблемы. Дырэктар Кастыцэвіч супольна з актывам Бельскага аддзела БГКТ выйшлі з прапановай пабудовы новага гмаху для беларускай школы ў Бельску. Гэтую прапанову падтрымалі ГП БГКТ і Куратарыум. Гэтакім чынам прапанова сталася пастановай аб пабудове асобнага гмаху для патрэб беларускай школы ў Бельску. Для дырэктара Кастыцэвіча пачаліся цяжкія дні. Яму ж ужо 64 гады. Але шчырае адданне справе дадавала яму сіл і энергіі. Прыходзілася яму, апрача нармальных абавязкаў, часта пабываць у Беластоку, каб прыспешыць афармленне розных спраў. Сёння ён адзначае:

— Пабудавалі мы гэты гмах дзякуючы ўсебаковай дапамозе партыйных і адміністрацыйных улад у Бельску і ў Беластоку, дзякуючы непасрэднай дапамозе Куратарыума і асабіста куратара Чэслава Лойкі. Шчырая падзяка належыцца таксама інжынеру Кузёле, пад кіраўніцтвам якога датэрмінова была апрацаваная тэхнічная дакументацыя і кіраўніцтву будаўлянага прадпрыемства ў Бельску, якое згодна з планам выконвала ўсе працы.

Так, падзякаваць ёсць за што. Красуецца зараз над Бельскам гэты прыгожы, прасторны школьны гмах, там, дзе калісь была пустка.

Беларускі ліцэй у Бельску адзначае радасны юбілей — 15 год свайго існавання. Больш за палавіну выпускнікоў гэтага ліцэя штогод ідзе вучыцца ў вышэйшыя навуковыя ўстановы. Сярод іх ужо ёсць 65 дыпламаваных інжынераў, шмат медыцынскіх і ветэрынарных работнікаў, многа магістраў фармацыі ды іншых навук. Каля 200 выпускнікоў працуе настаўнікамі. Ёсць школы, як у Зубаве, Пасынках, Рыбалах, дзе ўсе настаўнікі — былыя вучні Бельскага беларускага ліцэя. Сярод чатырох магістраў, якія працуюць у аптэцы ў Бельску, трох вучылася ў беларускім ліцэі.

Гэта далёка не поўны пералік дасягненняў, якімі можа ганарыцца беларускі ліцэй у Бельску. У новым будынку, пры непараўнальна больш карысных умовах і ўсебаковай педагагічнай працы, вынікі будуць напэўна яшчэ значна большыя.



**Дзень 11 лютага 1961 года залатымі літарамі запісаўся ў гісторыі беларускага ліцэя ў Бельску. Перааказана ў карыстанне новы прасторны гмах Беларускага ліцэя. На гэтай радаснай урачыстасці, у прыватнасці прысутнічалі: (злева направа) куратар — Ч. Лойка, прадстаўнік Міністэрства ўнутраных спраў — А. Лашкоўскі, дырэктар Бельскага беларускага ліцэя Я. Кастыцэвіч, старшыня ГП БГКТ — Л. Бялецкая і дырэктар Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы — А. Тропак.**



**Урокі па фізкультуры ў прасторнай, багата абсталяванай залі. На здымку: вучаніцы з XI класа.**



**Вучні, прыходзячы ў школу, накіроўваюцца найперш у гардэроб. Пакінуўшы тут сваю верхнюю вопратку і боты, можна ісці да класа толькі ў мяккіх пантофлях.**

Тэкст **ВІКТАРА РУДЧЫКА**

Здымкі **ГЕНРЫКА РАГАЗІНСКАГА**

Нмога не прадчуваючы, адкрываю свежы нумар «Нівы» і тут мяне як абухам стукнула. Самыя літары ў вочы лезуць — пяцігоддзе БГКТ. Выходзіць, людзі добрыя, пяць год праляцела, а многія з нас нават агляиуцца не паспелі.

Зразумела, што ў такіх выпадках прынята падлічваць пяцігадовыя дасягненні, але я ў матэматыцы слабаваты, таму аддаю гэтую справу другім грамадзянам.

Што зроблена да пяцігадовага юбілею — падлічаць, а вось, чаго не зроблена, гэтага ніхто не падлічыць.

Пакуль што крытычных заўваг у адрас Галоўнага Праўлення хапае. Людзі хацелі б па-




чуць беларускія песні ў такім выкананні, каб за сэрца шчыпала. Жадалі б пабачыць танцы, ад якіх у гледачоў пяткі засвярбелі б. На жаль, у нашых калектывах мастацкай самадзейнасці нічога такога няма. Пахваліцца высокім мастацтвам пакуль не можам. Вінаваты ў гэтым мы самыя, мілыя грамадзяне.

Калі б мы выбіралі ў члены праўлення адпаведных кандыдатаў, культасветработа выглядала б зусім інакш у нас. Напрыклад, змаглі б мы пачуць у клубе песню «Нёман» у выкананні сакратара Галоўнага Праўлення або пабачыць беларускую польку ў выкананні інструктара і старшыні праўлення.

Пры такой пастаноўцы справы арганізатары культасветработы пры павятовых аддзелах мелі б святы спакой. Галоўнае Праўленне само ўсю работу адваліла б і дзе трэба ў вёсках або ў Гродна нашы дасягненні паказала б.

Пры новых выбарах тэтыя камянты трэба браць пад увагу і хто ча б галайцы не грае або до-рэ-мі-фа-соль не выцягвае, такіх кандыдатаў у ніякім выпадку ў члены праўлення не прапускаць.

Паслалі б мы, напрыклад, у тэрэн члена праўлення — танцора, няхай, мавляў, адрацоўвае культуру нагамі, а з тэрэну ў замен прыслалі б нам пірагі са сметанай.

Чытачы могуць спытаць: дазвольце, што пірагам да культуры?

А я пытаю вас, мілыя чытачы: чым культурней наядаецеся — хлебам ці пірагамі?

Калі мне гапануюць хлеб або пірог, я адказваю: мне ўсё роўна і... цягну з міскі пірог.

Недахопы, якія назіраліся ў нашай працы на працягу мінулага пяцігоддзя, сведчаць аб тым, што Галоўнае Праўленне працавала без пяцігадовага плана.

З планам зусім інакш выходзіла б. Напрыклад, у першым годзе спяваем, у другім танцуем, у трэцім ставім п'есы, а ў астатнія два гады захапляемся дасягненнямі. Як бачыце, апрацоўка плана ніякіх асаблівых цяжкасцей не прадстаўляе.

А наогул, з выпадку пяцігадовай дзейнасці пажадаем Галоўнаму Праўленню і адышоўшым членам праўлення ўсяго добрага, чаго ... ны самі сабе жадаюць. Кожны ж з іх падкінуў зярнятка для агульнай справы. А калі што і не ўзышло, значыць, у неспрыяльную глебу папала.

Мілыя грамадзяне, дык жа і на ніве не кожнае насенне ўзыходзіць.

*Дзядзька Лявон*




## АДКАЗАЎ

Настаўнік: — Саўка, адкажы: куды далей — да Афрыкі ці да Месяца?

Вучань: — Да Афрыкі далей.

Настаўнік: — А па якой прычыне далей?

Вучань: — Па такой, што Месяц мы бачым штоноч, а Афрыкі не ўгледзіш, значыць яна далей. М. П.

## ХТО КАГО

Суддзя да абвінавачанага: — За тое, што вы ўкралі веласіпед — два гады турмы!

Абвінавачаны: — Калі вы будзеце так сурова судзіць, то ніхто не будзе красці. Тады і суддзі не будуць патрэбны.

**Тодар Міхалюк**
Койлы

МАЛЕНЬКІ ДАКЛАД — Бідструп

## НЕ МОЖА

Міхась сустрэў знаёмага сябра.

— Можаш мне павіншаваць, — гаворыць Міхась, — я ўчора заручыўся з Марысяй, цудоўная дзяўчына!

— З ахвотай павіншаваў бы, — кажа сябра Міхасю, — але не магу.

— А чаму ж гэта?

— Я сам з ёю быў заручаны.

**Мацейка**

## СТРАТНЫ

Увайшоў адзін мовазнаўца на судна і спытаў матроса:

— Ці ты ведаеш граматыку?

— Не, — адказаў матрос.

— Ты страціў палавіну свайго жыцця, — заўважыў вучоны.

Раптам падуў віхор, узняліся хвалі, закалыхалася судна. Тады матрос спытаў вучонага пасажыра:

— Ці ты ўмееш плаваць?

— Не, — адказаў той.

— Ты страціў цэлае сваё жыццё, — сказаў матрос.

**А. Сарачынскі**
Плянты

## ПАД'ЕХАЎ

На танцах чатырнаццацігадовы юнак падыйшоў да старэйшай дзяўчыны, якая яму падабалася, пакланіўся і ветліва спытаў:

— Перапрашаю, ці магу прасіць?

— Я не гуляю з дзіцём, — фыркнула яна.

— Тады яшчэ раз перапрашаю, я не ведаў, што вы цяжарная.

**М. Беразавец**
Бельск

### Як я молада ў матульві была...

(Беларуская народная песня)




Як я молада ў матульні была,
Як вішанька у садочку цьвіла.

Цьвіла, цьвіла, дай пацьвітывала,
З малайцамі дай пабрыківала.

Папалася злому духу - мужыку,
Ён высушыў як ліпінку у духу.

Наехала повен двор казакоў,
Ўзялі, ўзялі майго мужа у палон.

Ой не жаль, што яго узялі,
Толькі жаль мне, што ня моцна звязалі.

Ой, дасць ліха, ён адтуль уцячэць,
Мне галоўку натаўчэць, натаўчэць.




## Юбілейны падлік

Ужо пяцігоддзе. Наша свята!
У рукі возьмем алавік,
Ці плён быў дрэнны, ці багаты,
Зрабіць тут трэба нам падлік.

Здаецца ураджай удаўся
Нам на старшынь, сакратароў.
Як толькі з працаю пазнаўся,
На вушы шапку — будзь здароў!

Чамусьці не пашанцавала,
Каб больш нам згуртаваць сяброў.
У БГКТ ёсць членаў мала,
Для «Нівы» мала чытачоў.

Аднак ніхто хай не сумуе,
І тут зрабіць мы можам шмат.
Як здабыць членаў — заплануе
В. а. загадчыка — Сакрат.

А некаторым «актывістам»
Я б раду гэтакую даў:
Быць менш актыўнымі да «чыстай»,
Больш да грамадскіх нашых спраў.

А тым з праўдзівага здарэння,
Якія хочуць працаваць,
(Хай здзейсняцца іх лятуценні)
Хачу ім сёння пажадаць:

Каб працавалася шчасліва,
Каб мелі ў дзейнасці размах:
Было б каб дзесяць тысяч «Нівы»
І толькі ж членаў у гуртках.

**АНДРЭЙ САМАСЕЙ**



— Бачыце, які зараз час; ён не б'е без шлюбу!..